

# Краязнаўчая газета

№ 2 (163)
Студзень 2007 года
Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:






*Фота Леаніда БАРОЎСКАГА*

## Нашы віншаванні

Рэдкалегія «Краязнаўчай газеты» шчыра віншуе вядомага краязнаўца, сябра рэдкалегіі нашай газеты **Алеся Мікалаевіча КАРЛЮКЕВІЧА** з прысуджэннем яму прэміі «За духоўнае адраджэнне» 2006 года за цыкл публікацый «У пошуках страчанага».

Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», рэдкалегія «Краязнаўчай газеты» шчыра віншуюць аднаго з самых дасведчаных спецыялістаў у музейнай справе, з дапамогаю якога і непасрэдным удзеле ствараласа сучасная сетка музеяў краіны, – **Сяргея Іванавіча МАСЛОЎСКАГА** з 60-годдзем.

Жадаем Сяргею Іванавічу добрага здароўя, моцы духа і плёну ў справе, якую ён абраў адзін раз і на ўсё жыццё.

## Знойдзены незвычайныя валуны

На Лепельшчыне паміж вёскамі Марозава Слабада і Мягель выяўлены незвычайныя валуны. Яны ляжаць каля льнянога поля. У іх прасвідраваны дзіўныя адтуліны, якія дасягаюць дзесяці сантыметраў у глыбіню і паўтара – у дыяметры. Зараз вяскоўцы шукаюць спецыялістаў, якія ім патлумачаць, што ж здарылася з валунамі, паведамляе газета «Лепельскі край».

Дарэчы, мы ў № 37 за 2006 год ужо прысвячалі тэме камянёў і камянёў з маленькімі ямкамі асобныя артыкулы.



*Прыдзвінскі валун*

Фота Міколы ПІВАВАРА

> *Усякая краіна абавязаная сваім непаўторным воблікам народу*
>
> *Ж. Бернанос*

## У працяг размовы

*У апошнім нумары (№ 48) «КГ» за 2006 год на другой старонцы была змешчана кароткая справаздача нашага галоўнага рэдактара, які незадоўга перад гэтым браў удзел у Брэсце ў пасяджэнні «круглага стала» на тэму «Краязнаўства Берасцейшчыны: стан і перспектывы развіцця».*

*У публікацыі было мімаходзь сказана, што «КГ» адрасавалася нямала ўдзячных слоў за яе краязнаўчую работу. У прыватнасці, бібліятэкары ўхвалілі рубрыку «З бібліятэкі "КГ"» і папрасілі дасылаць ім хоць адзін экземпляр краязнаўчага выдання, якое адзначаецца. На жаль, нам цяжка выканаць гэтае пажаданне: не ўсе аўтары дасылаюць свае даследаванні нам, бо шмат кніг і брашур выдадзеныя па-за Мінскам. Таму, каб самім мець большае ўяўленне, шырэй інфармаваць чытача, дзе і што выходзіць па краязнаўстве, паверце, мы для гэтай высакароднай мэты трацім свой вольны час, гартаем даслаўленыя нам перыядычныя выданні і адшукваем вышэйназваныя навіны. З усяго гэтага бачым простае і рэальнае выйсце: кожны аўтар краязнаўчага выдання (хоць бы і на правах рукапісу) дасылае адзін асобнік нам. Тады мы анатуем яго, паведамляем, дзе і калі яно пабачыла свет, а пры згодзе аўтара – і яго адрас, каб ахвочыя маглі набыць яго твор (усе апытаныя намі аўтары далі на гэта згоду).*

**P.S.** *Шчыра дзякуем патрыятычнаму клубу «Спадчына» з вёскі Дварэц Дзятлаўскага раёна, які ўзнагародзіў нас граматай «за плённую працу па падтрымцы і прапагандзе краязнаўства, каштоўнасці роднай мовы, сумленнае стаўленне да сваёй справы і ў сувязі з юбілеем М. Багдановіча». Заадно дзякуем усім, хто шчыра і цёпла павіншаваў нас з Новым годам і Калядамі! Будзьма!*

*Рады дадаць, што паліцы нашай кніжнай шафы папоўніліся новымі краязнаўчымі выданнямі, якія выйшлі ў другой палове, напрыканцы 2006 года. У бліжэйшых нумарах пачнем знаёміць чытачоў з імі.*

*115 гадоў з дня нараджэння* *М. Багдановіча*



**ГРАМАТА**

*Ўзнагароджваецца*

**калектыў супрацоўнікаў**

***"Краязнаўчай газеты"***

**за плённую працу па падтрымцы і прапагандзе краязнаўства, каштоўнасці роднай мовы, сумленнае стаўленне да сваёй справы і ў сувязі з юбілеем М.Багдановіча.**

*Кіраўнік патрыятычнага клуба "Спадчына"* – *Ляўкевіч Н.М.*
*Старшыня савета клуба* *Баравік Крысціна*
*Стараста літаратурнага гуртка* *Пашкоўская Паліна*
**9 снежня 2006 г.**



*Нататкі вандроўныя*

## Аб чым толькі ў дарозе не падумаецца...

Так ужо здарылася, што якраз тады, 11 лістапада, я знаходзілася ў падарожжы па Расіі. І можа, каб не своечасовая sms-ка маскоўскай знаёмай, перапоўненая ўражаннямі ад вандроўкі, я і не ўспомніла б, што якраз гэты дзень у рускім народным календары лічыцца днём Зіновія-сінічніка, калі прынята пачынаць зімовую падкормку птушак. Вядома, са сваім спадарожнікам, з якім увесь другі дзень запар вандравалі па заснежаных дарогах Смаленшчыны, мы адразу падрыхтавалі тое, чым на працягу таго самага сапраўднага зімовага дня збіраліся частаваць згаладнелых вераб'ёў і сініц, галубоў ды крумкачоў...

Толькі вярнуўшыся на Беларусь, я даведалася, што і ў нашым народным календары дзень 11 лістапада таксама досыць цесна звязаны з птушкамі. Розніца ў тым, што беларускі каляндар называе яго Марцінавым днём, з якога, як кажуць у народзе, «зіма пачынаецца».

Узгадваецца Марцінаў дзень і ў заходнееўрапейскай міфалогіі. Да прыкладу, у народаў Пірэнейскага паўвострава святы Марцін лічыцца апекуном пералётных птушак, а ў нямецкай этнаграфіі – свойскіх. Нават рытуальнай стравай у Германіі, Францыі і некаторых іншых мясцовасцях у гэты дзень быў гусь.

Але ад стравы... – да справы. Сваёй, птушынай, беларускай...

Як бачым, нават народны каляндар не раіць нам забываць пра нашых крылатых суседзяў ад самага пачатку зімы. У гэтай сувязі і сёлета на Слонімшчыне будзе прадоўжана акцыя «Птушыная сталоўка», распачатая яшчэ пазалетась. Зараз у разнастайных мерапрыемствы ў рамках гэтай акцыі ў Слонімскім раёне ўцягнута больш за 50 сяброў з усіх сямі клубаў «Крылаты дазор», што дзейнічаюць у раёне. І ёсць спадзеў, што з цягам часу іх стане яшчэ болей, бо і самі дзеці, і іх настаўнікі праяўляюць усё большую цікавасць да дзейнасці нашых «дазораў». І ёсць упэўненасць, што зіму – няхай доўгую і сцюдзёную – перажывем... Разам – птушкі і людзі.



Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ

*Святлана ПРАКОФ'ЕВА, старшыня Слонімскага аддзялення ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны»*
*Слонім–Смаленск–Талашкіна–Слонім*




**Ласоўскі** Міхаіл Аляксеевіч (н. 20.06.1926, в. Трасціно Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл.), франтавік, інвалід Вялікай Айчыннай вайны, мае ўзнагароды, жыве ў в. Трасціно. Да вайны скончыў Трасцінскую сямігодку. На пачатку 1950-х гг. працаваў загадчыкам Трасцінскай хаты-чытальні, а потым – загадчыкам Трасцінскай сельскай бібліятэкі (да 1987, калі пайшоў на пенсію). Завочна скончыў Мінскі бібліятэчны тэхнікум імя А.С. Пушкіна (1957) і бібліятэчны факультэт Мінскага педінстытута імя М. Горкага (1965). Сваімі настаўнікамі ў краязнаўстве лічыць М. Мельнікава і М. Талкачова. На аснове асабіста сабраных краязнаўчых матэрыялаў прафесійна і з густам аформіў каля 10 краязнаўчых альбомаў, якімі карыстаюцца і сёння. Вёў перапіску і меў сяброўства з пісьменнікамі-землякамі: Аркадзем Куляшовым, Іванам Чыгрынавым, Аляксеем Пысіным (з ім быў на фронце ў адной дывізіі), Віктарам Карамазавым, Кастусём Кірэенкам, Аляксеем Зарыцкім, Пятром Прыходзькам. Адзін з аўтараў публікацый у кнігах «Памяць» Хоцімскага і Касцюковіцкага раёнаў. Няштатны аўтар хоцімскай газеты «Шлях Кастрычніка», а таксама «ЛіМа». Амаль усе публікацыі краязнаўчыя. Піша пра родную вёску і яе людзей, ваколіцы вёскі, пра падзеі на Хоцімшчыне, пра пісьменнікаў-землякоў.



Зіма бывае... і са снегам

*Праект*

## Інструкцыя
### аб правядзенні V этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край»

**Раздзел І. Агульныя палажэнні**

1. Інструкцыя аб правядзенні V этапа Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» (далей – Інструкцыя) распрацавана ў адпаведнасці з Пастановай калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 24 красавіка 1992 г. № 5 «Аб увядзенні ў дзеянне палажэння аб Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў "Наш край"».

2. Дадзеная інструкцыя вызначае парадак арганізацыі і правядзення Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў «Наш край» (далей – Экспедыцыя) на 2007–2008 гады, удзельнікаў Экспедыцыі, падвядзенне вынікаў і ўзнагароджванне.

3. Экспедыцыя носіць доўгатэрміновы характар, з 1 студзеня 2007 года па 31 снежня 2008 года абвяшчаецца правядзенне V этапа Экспедыцыі.

4. Мэтай V этапа Экспедыцыі з'яўляецца павелічэнне прыхільнікаў краязнаўчага руху сярод навучэнскай моладзі, фарміраванне ў маладога пакалення нацыянальнай самасвядомасці, грамадзянска-патрыятычных пачуццяў і адказнасці за захаванне гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны.

5. Задача чарговага этапа Экспедыцыі – удасканаленне турысцка-краязнаўчай работы сярод навучэнцаў, паглыбленне тэарэтычных ведаў і практычных уменняў па краязнаўстве, выяўленне лепшых юных краязнаўцаў у рэгіёнах і заахвочванне актыўных удзельнікаў краязнаўчага руху.

6. Для правядзення турысцка-краязнаўчай работы ў рамках Экспедыцыі выкарыстоўваюцца разнастайныя формы і метады экспедыцыйнай дзейнасці: паходы, экскурсіі, экспедыцыі, сустрэчы са сведкамі падзей, праца ў музеях, архівах, бібліятэках.

7. Удзельнікі V этапа Экспедыцыі вядуць працу па вывучэнні гісторыка-культурных і прыродных каштоўнасцей рэгіёна і іх усебаковым і цэласным даследаванні, выконваюць культурна-асветніцкую і грамадска-карысную работу з улікам вучэбна-выхаваўчых задач установы адукацыі і актуальных праблем захавання гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны.

У працэсе краязнаўчай дзейнасці:
– устанаўліваюцца цесныя і доўгатэрміновыя сувязі з навуковымі і дзяржаўнымі арганізацыямі, творчымі саюзамі і грамадскімі аб'яднаннямі, вядомымі краязнаўцамі, навукоўцамі і музейнымі супрацоўнікамі, выкарыстоўваюцца іх навукова-метадычныя, матэрыяльныя і творчыя магчымасці;
– ствараюцца летапісы родных мясцін;
– даследуецца жыццё і дзейнасць знакамітых землякоў;
– ствараюцца турысцка-краязнаўчыя даведнікі, слоўнікі, картатэкі рэгіянальных гісторыка-культурных і прыродных аб'ектаў;
– папаўняецца краязнаўчы банк дадзеных;
– афармляюцца і папаўняюцца экспазіцыі музеяў устаноў адукацыі.

**Раздзел ІІ. Парадак арганізацыі і правядзення Экспедыцыі**

8. Арганізацыйна-метадычнае кіраўніцтва Экспедыцыяй ажыццяўляе Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Установа адукацыі «Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі», на месцах – раённыя, гарадскія і абласныя органы адукацыі.

9. Каардынацыя экспедыцыйнай дзейнасці ажыццяўляецца Цэнтральным і рэгіянальнымі (першаснымі, раённымі, гарадскімі, абласнымі) Саветамі Экспедыцыі, якія фарміруюцца з ліку прадстаўнікоў органаў адукацыі, вядомых педагогаў, навукоўцаў, супрацоўнікаў музейных устаноў і краязнаўцаў.

10. Вынікі работы юных краязнаўцаў падводзяцца Саветамі Экспедыцыі ў форме рэспубліканскай краязнаўчай алімпіяды.

11. Рэспубліканская краязнаўчая алімпіяда праводзіцца ў чатыры этапы:
першы этап – ва ўстановах адукацыі;
другі – раённы (гарадскі);
трэці – абласны (Мінскі гарадскі);
чацвёрты – рэспубліканскі.

Тэрміны правядзення першага, другога і трэцяга этапаў вызначаюць рэгіянальныя Саветы Экспедыцыі.

Чацвёрты (рэспубліканскі) этап праводзіцца ў снежні 2008 года.

12. Удзельнікамі рэспубліканскага этапа краязнаўчай алімпіяды з'яўляюцца экспедыцыйныя атрады (не болей за 12 навучэнцаў) – пераможцы абласных этапаў. Узрост удзельнікаў краязнаўчай алімпіяды не абмежаваны.

13. Кожны этап рэспубліканскай краязнаўчай алімпіяды змяшчае некалькі тураў: *тэставы* (на веданне гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны сваёй мясцовасці); *практычны* (абарона сваёй даследчай краязнаўчай работы); *творчы* (за пэўны час скласці экскурсію-імправізацыю па прапанаваных аб'ектах (значных для рэгіёна); *тэарэтычны* (краязнаўчая віктарына, якая распрацоўваецца з улікам уключэння важных для рэгіёна гісторыка-культурных падзей і фактаў).

14. Цэнтральны і рэгіянальныя Саветы Экспедыцыі на кожным этапе рэспубліканскай краязнаўчай алімпіяды:
– распрацоўваюць і зацвярджаюць праграму правядзення адпаведнага этапа рэспубліканскай краязнаўчай алімпіяды;
– фарміруюць і зацвярджаюць склад распрацоўшчыкаў алімпіядных заданняў для кожнага тура;
– зацвярджаюць заданні для тураў;
– фарміруюць і зацвярджаюць склад журы;
– вызначаюць пэўныя тэрміны правядзення краязнаўчых алімпіяд і працяг правядзення кожнага тура алімпіяды;
– узнагароджваюць пераможцаў;
– асвятляюць вынікі адпаведнага этапа алімпіяды ў сродках масавай інфармацыі.

15. Журы кожнага этапа рэспубліканскай алімпіяды:
– распрацоўвае і зацвярджае крытэрыі адзнакі вынікаў выканання алімпіядных заданняў;
– правярае і ацэньвае выкананне алімпіядных заданняў па кожным туры;
– вызначае пераможцаў адпаведнага этапа краязнаўчай алімпіяды і афармляе выніковую дакументацыю.

**Раздзел ІІІ. Удзельнікі Экспедыцыі**

16. Удзельнікамі Экспедыцыі з'яўляюцца юныя краязнаўцы, якія аб'яднаны ў экспедыцыйныя атрады ва ўстановах адукацыі, ці ўстановах пазашкольнага выхавання і навучання і вядуць эфектыўную працу па выяўленні, даследаванні і папулярызацыі рэгіянальнай гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны.

**Раздзел IV. Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджванне**

17. На ўсіх этапах рэспубліканскай алімпіяды журы вызначае пераможцаў з ліку ўдзельнікаў адпаведнага этапа рэспубліканскай краязнаўчай алімпіяды.

18. Цэнтральны і рэгіянальныя Саветы ўзнагароджваюць пераможцаў кожнага этапа рэспубліканскай краязнаўчай алімпіяды дыпломамі I, II, III ступені і каштоўнымі падарункамі.

*Кароткі слоўнік*

# краязнаўча-прававой тэрміналогіі

*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**СЯМЕЙНАЕ ПРАВА** – сукупнасць юрыдычных норм, царкоўных правіл, а таксама звычаяў і традыцый, што рэгулявалі ў ВКЛ асабістыя і маёмасныя адносіны, якія ўзнікалі ў сувязі са шлюбам, сваяцтвам, апекай і інш. Да прыняцця хрысціянства шлюбныя адносіны вырашала звычаёвае права, а пасля прыняцця – кананічнае права. У XVI–XIX стст.у сувязі з аслабленнем рэлігійнага ўплыву на грамадскую і асабістую свядомасць адбыўся падзел юрысдыкцыі і ў сямейным праве: шлюб, сямейныя адносіны засталіся за царкоўнай уладай, маёмасныя – адышлі да свецкай.

Да пастановы Трыдэнцкага сабору 1563 г. у ВКЛ існавалі дагаворная і царкоўная формы шлюбу. Дзяржава прызнавала абедзьве, а вось царква – толькі дадзены ёй шлюб. Паводле Статута ВКЛ 1588 г. быў устаноўлены шлюбны ўзрост для жанчыны з 13 гадоў, для мужчыны – з 18. Важнай умовай для заключэння шлюбу была ўзаемная згода, адсутнасць падману і прымусу. Не дазваляўся шлюб, калі маладыя былі блізкімі сваякамі. Калі пазней выяўлялася, што апошні закон быў парушаны, то шлюб маглі аб'явіць несапраўдным, а дзяцей – незаконнанароджанымі. Шлюб спыняўся і ў тым выпадку, калі муж альбо жонка паміралі ці калі шлюб скасоўваўся. У гэтым выпадку вялікую ролю адыгрываў царкоўны суд. Пры тым розныя канфесіі падыходзілі да гэтай справы па-рознаму: праваслаўная царква магла ўлічыць справядлівыя падставы для скасавання шлюбу, каталіцкі касцёл быў больш строгі, адмаўляў саму ідэю разводу. Тым, чый шлюб быў скасаваны па дазволе, мог жаніцца, выходзіць замуж другі раз. Але паводле праваслаўнай царквы нельга было сямеіцца больш трох разоў, аднак заканадаўства і практыка строга гэтага абмежавання не прытрымліваліся.

Сям'я лічылася паўнацэннай, калі ў ёй былі дзеці. Яны да паўналецця знаходзіліся пад уладай бацькоў. Дарослы сын, які не аддзяліўся і не адышоў ад бацькі, таксама заставаўся пад яго уладай, не мог самастойна распараджацца маёмасцю. Дзяўчына была пад апекай бацькоў да замужжа. Бацькі мелі права адрачыся ад дзяцей, калі тыя, сталыя, паводзіліся несумленна. Сямейнае права спецыяльна прадугледжвала асабістыя правы і абавязкі бацькоў і дзяцей, сярод гэтага было прапісана і патрабаванне для дзяцей клапаціцца пра сваіх старых, нямоглых бацьку і маці.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВЯЛЕС** (Валос, Волас) – язычніцкае божышча ўсходніх славян. Яго лічылі апекуном жывёлагадоўлі, багацця (зямля і жывёла лічыліся найпершай умовай багацця земляроба), а таксама паэзіі. З пашырэннем хрысціянства ў гэтых народаў названая моц перадалася (як лічаць даследчыкі, па сугучнасці імён) Уласу, якога пачалі ўшаноўваць як апекуна свойскай жывёлы. Уласа (Аўласа) святкавалі 11 лютага старога стылю. У гэты дзень спраўлялі «конскае свята»: коней сытней кармілі і на іх не працавалі. Калі дажыналі жыта, пакідалі жменю няжжатых раслін («бараду» ці «Уласавую бараду»). Для «пракорму Божага стварэння – птушак», «для новага ўраджаю». На Беларусі ў многіх рэгіёнах памяць пра Вялеса захавалася ў тапаніміі: азёры Паўднёвы і Паўночны Волас, вёска Волас, Валасова, Велясніца і інш.

**«ВЯЛІКАЕ ЗЯРЦАЛА»** – сярэднявечны зборнік дыдактычна-маралізатарскіх царкоўна-рэлігійных легенд, свецкіх аповедаў і народных анекдотаў; помнік перакладной беларускай літаратуры XVII ст. Гэты зборнік быў перакладзены з польскага тэксту, які бярэ пачатак з лацінскага арыгінала, апублікаванага ў 1481 г. у Галандыі. Для беларускага перакладу было адабрана 60 сюжэтаў. Як лічаць некаторыя даследчыкі, складальнікі зборніка ўлічвалі і гуманістычны, дэмакратычны характар навел, дзе асуджаліся жорсткасць і насілле заможнага і ўладнага люду, разбэшчанасць яго, у тым ліку і духавенства.

У зборніку з гумарам, часамі з сатырай адлюстраваны адмоўныя рысы чалавечага характару і паводзін. Усё гэта ў спалучэнні з яркімі літаратурнымі формамі доўгі час рабіла зборнік папулярным для чытання, прапаганды ў тых, хто выступаў за высокія маральныя каштоўнасці. Надаваў цікавасць і мясцінамі фантастычны характар твораў.

## З бібліятэкі «КГ»

*Як паведамляла «КГ» у № 1 (студзень 2007 года) 27 снежня 2006 года ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адбыўся вечар памяці, прысвечаны 75-годдзю Юрыя Аляксандравіча Карачуна (1931–1997) – былога дырэктара музея.*

*Годна падрыхтаваліся да гэтай даты музейныя работнікі – калегі Ю.А. Карачуна. Яны выдалі і прэзентавалі прысутным на вечары кнігу ўспамінаў тых, хто добра ведаў, працаваў і сябраваў з Юрыем Аляксандравічам, буклет да адкрыцця ў гэты ж дзень выстаўкі яго твораў і паштовую марку са спецгашэннем у дзень 75-годдзя Ю.А. Карачуна.*

*Мне, работніку культуры і музейшчыку з не малым стажам, не прыпамінаецца, каб вось так годна і заслужана адзначаліся юбілеі выдатных музейцаў Беларусі, якіх у нас нямала. Няхай гэты прыклад стане добрым пачаткам: мы пачнем уганароўваць работнікаў культуры, і лепш, калі гэта будзе адбывацца пры іх жыцці. Каб іх імёны таксама засталіся ў гісторыі нашай краіны. Засталіся ў вечнасці.*




# Імгненнасць і вечнасць

Так адбылося, што наша сяброўства з Юрыем Аляксандравічам замацоўвалася, у асноўным, падчас вандровак. Па Беларусі іх было так многа, што большасць не захавалася ў памяці. Але такія, як у Мір, Нясвіж, Бялынічы, Гальшаны, Гурыны – я фіксую смела, бо менавіта разам бывалі (і не аднойчы) там, дзе замаўлялі адкрыццё новых экспазіцыйных кропак – будучых філіялаў Нацыянальнага мастацкага музея.

Безумоўна, запрашаючы ў такія вандроўкі, Юрый Аляксандравіч не столькі хацеў упэўніцца ў сваіх перакананнях неабходнасці пашырэння дзейнасці музея, як шукаў падтрымкі сваіх ідэй у кіруючых асоб Міністэрства культуры. А яго ўнутраныя, душэўныя перакананні пераважна і былі скіраваны на звышзадачу – пашырэнне ўплыву выяўленчага мастацтва на ўсю краіну. І дзіўна, нягледзячы на велізарныя складанасці, яго намаганням давялося спраўдзіцца ў Магілёве, Бялынічах, Раўбічах, Гальшанах, Зембіне і іншых месцах. Штогод мастацкі музей ствараў і арганізоўваў больш за 100 перасоўных выстаў ва ўсіх кутках Беларусі. Што было вельмі дарэчы – у многіх гарадах і вёсках творы мастацтва былі з'яваю даволі рэдкаю.

Таму зразумелым будзе параўнанне дзвюх постацей, якія разам і кожная паасобку ўнеслі агромністы ўклад у справу развіцця Нацыянальнага мастацкага музея, – Алены Васільеўны Аладавай і Юрыя Аляксандравіча Карачуна. Жыццё і музейная праца дырэктара Ю.А. Карачуна з'явіліся лагічным працягам велізарнай збіральніцкай дзейнасці А.В. Аладавай, якую ён скіраваў на прапаганду мастацкіх твораў, пашырэнне ўплыву менавіта беларускага мастацтва на сферу эстэтычнага выхавання. Працягваючы справу А.В. Аладавай, Ю.А. Карачун стараўся трымацца ў цені свайго знакамітага папярэдніка. Прыродная сціпласць і інтэлігентная выхаванасць дырэктара дазволілі калектыву музея, яго аднадумцам і прыхільнікам, раскрыць патэнцыяльныя здольнасці і сваёй працай доказаць значнасць гэтай культурнай установы ў інтэлектуальным жыцці краіны, пашырыць вядомасць музея далёка за межы Беларусі.



*У Авачынскай бухце на Камчатцы: сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Паўлаў, нам. міністра культуры Беларусі Уладзімір Гілеп і Юрый Карачун (жнівень 1990 г., фота Юрыя Цвяткова)*

Яго немітуслівай, няспешнай энергіі хапіла, каб творы мастацтва знаходзілі ўсё новыя шляхі на геаграфічнай карце краіны. Не ўсе ведаюць сёння, што першым, хто падтрымаў ідэю аднаўлення старажытнага Нясвіжа і стварэння ў замку Радзівілаў музея, быў не хто іншы, як Юрый Аляксандравіч Карачун. Менавіта з ім, а яшчэ з такімі вядомымі знаўцамі гісторыі Нясвіжа, як Надзея Высоцкая, Іван Загрышаў, Сяргей Друшчыц, Сяргей Маслоўскі, у 1992 годзе мы паехалі на сустрэчу з кіраўніцтвам раёна, каб пераканацца самім і пераканаць несвіжан у неабходнасці стварэння ў горадзе гісторыка-культурнага запаведніка і рэстаўрацыі замка Радзівілаў. Дзякуючы менавіта таму кроку, яго наступствам сённяшні Нясвіж вядомы як помнік сусветнай значнасці і ўзяты пад ахову ЮНЕСКО...

Апошняя наша сумесная вандроўка была, як мы казалі тады, на «край свету» – на Камчатку, дзе ў жніўні 1990 года праходзілі Дні культуры Беларусі. Юрый Аляксандравіч увахозіў у склад афіцыйнай дэлегацыі, але з сабою павёз і дастаткова вялікую выставу твораў беларускіх мастакоў. Сам працаваў над стварэннем экспазіцыі, сам вадзіў па ёй экскурсіі наведвальнікаў. Асабліва ўразіла яго як мастака паездка ў Авачынскую бухту, на ўзбярэжжа Ціхага акіяна. На фоне суровага пейзажу мы адчулі сваю безабароненасць перад стыхіяй, імгненнасць жыцця перад вечнасцю прыроды. Менавіта разам з прыродай мы застаемся ў вечнасці...

***Уладзімір ГІЛЕП,***
***старшыня ГА «Беларускі фонд культуры»***





*Не заглядайся, коце...*

*Фота Ірыны АЛЯКСАНДРАВАЙ*

З бібліятэкі «КТ»

# Імёны і мянушкі землякоў

Нагадаем чытачу, што слова «анамастыка» паходзіць з грэчаскай мовы і азначае: 1) сукупнасць уласных імёнаў у мове; 2) раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны.

Выкладчык Мазырскага дзяржаўнага педуніверсітэта імя І. Шамякіна, доктар філалагічных навук прафесар Васіль Шур сваю новую, названую ў загалоўку, навуковую працу прысвяціў выяўленню і аналізу анамастычнай адзінкі – «асабовым уласным імёнам, мянушкам, прозвішчам, разнастайным тапанімічным назвам як неад'емным кампанентам мастацкага тэксту» (з анатацыі да манаграфіі, выдадзенай ў 2006 годзе ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор»).

З манаграфіі вынікае, што беларуская анамастыка пачала актыўна вывучацца апошнія 40 гадоў. І з усведамленнем, што онімы здаўна ў беларускай мове функцыянуюць шматпланава: і ў беларусаў імя чалавека не толькі індывілізуе яго, але і падкрэслівае шматзначныя канкрэтызацыі.

Згодзімся і з даследчыкам: беларускаіменныя імёны Алесь, Янка, Кастусь і г.д. – не проста своеасаблівыя найменні, яны падкрэсліваюць каларытнасць, глыбіннасць.

Прызнаюся, шчыра ўразіўся, што Васіль Шур гэтак грунтоўна па сваім профілі даследаваў творчасць майго земляка і сусветнага майстра літаратуры Якуба Коласа, падлічыўшы, што наш класік выкарыстаў у сваіх творах больш за 870 мужчынскіх і 330 жаночых імёнаў (персанажаў). Зразумела, Я. Колас меў арыентацыю ў выбары імёнаў на нашу Стаўбцоўшчыну, але ў гэтым сваім выбары сыходзіць з розных пазіцый, падкрэсліваючы мясцовае, царкоўнаславянскае, праваслаўнае, каталіцкае, мусульманскае і яўрэйскае, а таксама асаблівасці наймення прадзедаў, бацькоў, мужа і жонкі, дзяцей, паважанага люду.

Цікава Вам з усім гэтым і названым тут бліжэй пазнаёміцца, адкрыць для сябе тайну імені і ў беларусаў? Паспрабуйце набыць кнігу В. Шура «Онім у мастацкім тэксце» (наклад яе невялікі – 160 асобнікаў) і, паверце, будзеце чытаць яе прыемна, пазнавальна, з харошым здзіўленнем, адкрыццём для сябе.

**Генадзь ДОЙЛІД**

# Абуховіч Піліп Казімір

## (? – 06.09.1656)

***Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, дыпламат, пісьменнік. Паходзіў з Мазырскае шляхты. Скончыўшы Замойскую акадэмію, служыў пры двары віленскага ваяводы, канцлера Вялікага княства Літоўскага Л. Сапегі. Вызначаўся выключным майстэрствам рыторыкі, пра што сведчаць яго прамовы на лацінскай і грэчаскай мовах у гонар П. Замойскага (апубл. у 1617 годзе). Быў намеснікам мазырскага кашталяна. У 1632-м выбраны паслом ад Мазырскага павета ў Трыбунал Вялікага княства Літоўскага. На Віленскім канвакацыйным сойме 1634 года выступаў як прадстаўнік Мазырскага павета, а на соймах 1638, 1639, 1640, 1645, 1646 гадоў – як пасол ад Навагрудскага ваяводства. На сойме 1648 года выбраны прадстаўніком ад Вялікага княства Літоўскага ў раду пры прымасе (гнезненскім арцыбіскупе) М. Лубенскім, на выбарчым сойме – маршалкам пасольскай палаты.***

Яго лічылі дзеячам вялікага розуму і рэдкага красамоўства, ён быў разважлівы і вынаходлівы пры ўладкаванні канфліктаў у складаных сітуацыях. На каранацыйным сойме 1649 года ў Кракаве адкрываў цырымоніі як маршалак папярэдняга сойма, выбраны ў камісію па перагаворах са Швецыяй. У 1651 годзе прызначаны вялікім паслом ад Вялікага княства Літоўскага да цара Аляксея Міхайлавіча, каб заключыць дагавор з Расіяй супраць татар. З 1653 года Абуховіч – ваявода смаленскі. У 1654 годзе ён узначальваў абарону Смаленска і пасля доўгай аблогі вымушаны быў здаць горад рускім войскам. За гэта быў абвінавачаны ў здрадзе.

Па руках пачалі хадзіць зласлівыя «пашквілі», у тым ліку і «Ліст да Абуховіча», напісаны 06.07.1655 года мазырскім шляхціцам Іванам Цыпрыянам Камунякам (Каманэнькам). Хоць сатыра ў гэтым творы (які можна было б назваць і пародыяй на дзелавое пасланне і разам з тым – першым адкрытым лістом), скіраваная супраць аднаго чалавека, а таму па сваім змесце вузейшая, чым у «Прамове Мялешкі», аўтару ўдаецца паказаць бяздарнасць і прадажнасць некаторых вышэйшых колаў службовай шляхты ВКЛ, выкрыць неўладкаванасць у вайсковым кіраванні ўсёй Рэчы Паспалітай. Шырока выкарыстоўваючы багатыя сродкі народнага гумару і сатыры, прыказкі і прымаўкі, аўтар максімальна згушчае фарбы і стварае гіпербалізаваны вобраз П.К. Абуховіча – няўдалага і труслівага ваякі, казнакрада, хабарніка і неразумнага чалавека. Прычым свядомае скажэнне рэальнасці дазваляе выявіць у асобе антыгероя – Абуховіча шэраг тыповых рыс, уласцівых дзяржаўным дзеячам Рэчы Паспалітай. Гратэскавы рэалізм, каларытная жывая мова, нечаканыя павароты аўтарскай думкі і ідэйная накіраванасць забяспечылі «Лісту» шырокую папулярнасць сярод гараджан, рамеснікаў і дробнамаёнткавай шляхты.

У маі 1655 года Абуховіч быў выкліканы на сойм наконт здачы смаленскай крэпасці. Кароль даў магчымасць Абуховічу даказаць сваю вернасць дзяржаве і даверыў яму камандаванне палкамі у бітве супраць шведаў пад Варшавай. У ліпені 1656 года Абуховіч накіраваўся са сваім атрадам пад Брэст, дзе захварэў і памёр. Пахаваны ў сямейным склепе, што ў езуіцкім касцёле Навагрудка. Намаганнямі сыноў быў апраўданы на надзвычайным сойме 1658 года.

Абуховіч пакінуў пасля сябе польскамоўны «Дыярыуш», які ахоплівае падзеі 1630–1654 годоў (апублікаваны ў 1859 годзе М. Балінскім), а таксама запісы пра абарону Смаленска і шляхецкія выбары 1632 года. Мемуары маюць гістарычную каштоўнасць, расказваюць пра войны, пасяджэнні соймаў, пасольства ў Маскву, услаўляюць дабрачыннасць Сапегаў, даюць звесткі пра анамаліі ў надвор'і, пра хваробы, сведчаць пра тое, што Абуховіч быў патрыётам аб'яднанай Рэчы Паспалітай, фанатычным католікам. Бацькаву справу працягвалі М.Л. Абуховіч і Т.Г. Абуховіч, якія таксама вялі дзённікавыя запісы.

***Ганна БУЛАШ,***
***бібліятэкар Мазырскай раённай бібліятэкі***

Асоба ў краязнаўстве

# Міхаіл Клімец – гісторык і краязнаўца

***Музей-сядзіба «Пружанскі палацык» ужо некалькі гадоў атрымоўвае матэрыялы па гісторыі краю ад брэсцкага краязнаўцы Міхаіла Паўлавіча Клімца. Міхаіл Паўлавіч – асоба цікавая, з вельмі няпростым лёсам.***

Нарадзіўся 2 ліпеня 1938 г. у в. Роўбіцк Пружанскага раёна. Бацька – Павел Антонавіч – прыхільнік уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР, палітвязень польскай турмы, маці – Алена Адамаўна. Пасля верасня 1939 г. бацька актыўна ўключыўся ў будаўніцтва новага жыцця. 22 чэрвеня 1941 г. пачалася Вялікая Айчынная вайна і ўжо ў першыя яе дні Пружаншчына была акупавана нямецкімі войскамі.

У канцы студзеня 1942 г. гестапа арыштавала сям'ю П.А. Клімца і да сакавіка яны ўтрымліваліся ў перасылачных пунктах у Сухапале, Белавежы, Бельску, Беластоку, а затым былі перавезены ў канцлагер непадалёк ад чыгуначнай станцыі Чарнавесь у Польшчы. У ім было больш за 1 000 палітвязняў, якія жылі ў фанерных бараках і працавалі па 15 гадзін у суткі на мясцовых лесараспрацоўках і ў мэблевых цэхах. Зняволеныя пакутавалі ад знясільваючай працы, халадоў, голаду і пабояў аховы, шмат хто хварэў на сухоты і нервовыя захворванні. У такіх жа невыносных умовах знаходзіліся і малалетнія вязні – больш за 300 дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў. Па словах Міхася Паўлавіча, гестапаўцы звалі іх «бандыккіндэр» – «дзеці бандытаў». Яны ўтрымоўваліся ў дзіцяча-медыцынскім бараку за калючым дротам, у якім гітлераўцы праводзілі медэксперыменты па вывучэнні новых лекаў для нямецкіх салдат, доследы ставіліся нават над дзецьмі-інвалідамі. Дзеці выкарыстоўваліся выключна для ўзяцця донарскай крыві. Працавалі малалетнія вязні і падсобнікамі ў мэблевых цэхах, на гародах і г.д. Міхаіл Паўлавіч успамінае, што ўвосень 1943 г. быў жорстка збіты нямецкім ахоўнікам толькі за тое, што з'еў на градцы некалькі бульбін. У выніку атрымаў моцную траўму нагі, якая турбуе і зараз.

У чэрвені 1944 г. чыгуначная станцыя Чарнавесь і лагер, які знаходзіўся побач, моцна бамбілі. Некалькі чалавек загінулі, а Міхаіл быў паранены ў галаву, што пасля стала прычынаю інваліднасці. У жніўні 1944 г. лагер быў вызвалены Чырвонай Арміяй.

Пасля вяртання ў родную вёску бацька стаў старшынём калгаса. У 1953 г. падчас хлебанарыхтовак ён загінуў. Два родныя браты Міхася Клімца – Анатоль і Аляксандр – выхоўваліся ў дзіцячых дамах Шарашова і Кобрына. Нягледзячы на пасляваенныя цяжкасці, Міхаіл Паўлавіч скончыў Магілёўскае культасветвучылішча, а затым БДУ (1967). Больш за 15 гадоў працаваў у Пружанскім райкаме камсамола, затым – у райкаме партыі, а з 1964 г. – намеснікам начальніка ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама.

Захапленнем усяго жыцця стала краязнаўства, больш за 40 гадоў жыцця прысвяціў яму Міхаіл Паўлавіч. Кола яго інтарэсаў досыць шырокае, аднак цэнтральнай тэмай стаў нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі, уз'яднанне з БССР і падзеі Вялікай Айчыннай вайны ў рэгіёне. Дзякуючы яму, супрацоўнікі музея-сядзібы «Пружанскі палацык» значна папоўнілі свае веды аб дадзеным перыядзе гісторыі Заходняй Беларусі. Назапасіўшы матэрыял па савецкай тэматыцы, Міхаіл Паўлавіч заняўся вывучэннем помнікаў гісторыі ў Белавежскай пушчы і яе ўскраінах. Яго краязнаўчыя матэрыялы ўвайшлі ў кнігі «Памяць» Пружанскага і Камянецкага раёнаў, Брэста, розныя перыядычныя выданні горада, вобласці, краіны, а таксама сталі асновай для стварэння ў г.п. Ружаны Пружанскага раёна Кургана Славы ў гонар воінаў, загінулых тут у 1941 г., помніка паўстанцам Кастуся Каліноўскага ў Ружанскай пушчы. Акрамя таго, ён з'яўляецца аўтарам больш за 500 артыкулаў, а асабісты архіў (больш за 6 000 фотаздымкаў і дакументаў) захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці (фонд 233). Ён прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы турыстычных маршрутаў па Брэсцкай і Гродзенскай абласцях. Матэрыялы, сабраныя ім, папоўнілі фонды Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, музея Брэсцкай крэпасці. Міхаіл Клімец удастоены дзяржаўных узнагарод, мае падзякі Вярхоўнага Савета БССР, Брэсцкага аблвыканкама, іншых арганізацый. У 1993–2000 гг. ён узначальваў абласную Раду былых малалетніх вязняў фашызму – інвалідаў вайны 1941–1945 гг. У 2001 г. занесены ў энцыклапедыю «Хто ёсць Хто ў Рэспубліцы Беларусь і СНД».

Яго родныя браты – людзі вельмі цікавыя, таму хацелася б некалькі слоў сказаць і пра іх. Аляксандр Клімец (нар. 21.03.1950) – аўтар навуковых даследаванняў па фізіцы і філасофіі, напрыклад, «Новай інтэрпрытацыі тэорыі адноснасці Эйнштэйна». Шэраг яго прац знаходзяцца ў бібліятэцы Кангрэса ЗША, НАН Беларусі, АН Расіі. Анатоль Клімец (10.01.1943 – 04.09.2001) – вядомы данецкі бізнесмен, у гонар якога ў цэнтры Данецка пастаўлены помнік, аб ім Анатоль Крэйдзіч напісаў кнігу «Анатоль Клімец. Жыццё і лёс. Сага аб сапраўдным чалавеку». Яго сын – Павел Анатольевіч (нар. 23.07.1967) – зараз дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны, стваральнік і прэзідэнт канцэрна «Алімп», адзін з самых вядомых бізнесменаў і мецэнатаў Украіны.

*У канцы хацелася б сказаць словы падзякі Паўлу Анатольевічу Клімцу за шматгадовую працу па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны краю і пажадаць яму, перш за ўсё, моцнага здароўя.*

*Пры падрыхтоўцы артыкула скарыстаныя матэрыялы з асабістага архіва П.А. Клімца, публікацыі ганаровага грамадзяніна г. Брэста У.П. Ласковіча, дадзеныя энцыклапедыі «Хто ёсць Хто ў Рэспубліцы Беларусь і СНД».*

***Сяргей ДЗЯМІДАЎ,***
***старшы навуковы супрацоўнік музея-сядзібы «Пружанскі палацык»***





***Не проста так я перафразаваў купалаўскія радкі, а з падачы нашага прараба. Калі я ўладкаваўся працаваць у будаўніча-мантажную арганізацыю і мяне прызначылі брыгадзірам, то прараб, інструктуючы мяне перад выездам на аб'ект, сказаў: «Памятай, ты на аб'екце – і Бог, і цар, і герой. Што скажаш, тое і будуць усе рабіць. А калі пачнуцца выкрунтасы накшталт "тое не хачу, гэта не буду, я вам не падсобнік, а высокакваліфікаваны спецыяліст" і г.д., то тэлефануй на офіс, і мы такога разумніка адразу звольнім». Вось таму і выбраў я для фотаздымка такую «царскую» позу: на кучы смецця, як на троне, з кувалдай і ломам як рэгаліямі. Але навошта я ўсё гэта гавару, і ўвогуле, хто я такі?***

### Незапатрабаваны спецыяліст

Папрацаваўшы ў школе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры (у адпаведнасці са сваім дыпломам, адразу пасля заканчэння ўніверсітэта), паспрабаваўшы сябе ў журналістыцы, вырашыў зноў вярнуцца ў школу. Але аказалася, што спецыялістаў майго профілю ў краіне лішак. Ні ў маім раённым горадзе, ні ў іншых, суседніх, у чые ўпраўленні адукацыі я тэлефанаваў, свабодных месцаў для беларускага філолага не аказалася.

Расчараваўшыся, я стаў шукаць заробак праз інтэрнет, у прыватнасці, павесіў там аб'яву, што мне патрэбна любая праца, нават фізічная. Мне патэлефанавалі і запрасілі ў фірму, якая займаецца бягучым рамонтам памяшканняў. Я згадзіўся, і з таго часу паспеў шмат чаму новаму навучыцца і пабываў у шмат якіх цікавых сітуацыях, у якіх мог апынуцца толькі я – філолаг-беларусазнаўца. Пра некаторыя з гэтых сітуацый і хачу цяпер расказаць.

### Шарашкава кантора

Як вядома, людзі будаўнічых спецыяльнасцяў зараз вельмі запатрабаваныя, іх недахоп (ведаю па ўласным вопыце, перачытаўшы шмат газет з аб'явамі аб працаўладкаванні). Вось і вырашыла адна мінская фірма правесці эксперымент – набраць брыгаду неспецыялістаў, але нармальных, без шкодных звычак, людзей і на кожны новы від працы прысылаць ім на аб'ект спецыяліста, каб паказаў, як што рабіць, і паехаў назад, на свой аб'ект. Напрыклад, трэба пакласці цэглу – прышлюць нам на адзін дзень муляра, трэба патынкаваць – прышлюць на дзень тынкоўшчыка і г.д. І ствараць гэтую брыгаду паспрабавалі спачатку з мяне і двух студэнтаў-завочнікаў ВНУ па нейкай радыётэхнічнай спецыяльнасці. А раптам атрымаецца?

Атрымалася, толькі не раптам. Гэтых двух студэнтаў, як выявілася, прывабілі ў шарашку падманам – паабяцалі, што прымуць іх на працу як інжынераў і будуць браць заказы ў апаратараў сотавай сувязі на ўстаноўку вышак з перадатчыкамі. Калі ўжо мы сабраліся ў офісе шарашкі (вельмі абшарпанае, запыленае, недагледжанае памяшканне ў жылым фондзе) і гутарылі з яе кіраўніцтвам (дырэктар, два інжынеры і прараб), калі ўжо паклалі на стол працоўныя кніжкі, інжынер папярэдзіў, што вышкамі пакуль займацца не будуць, бо фірма яшчэ не мае ліцэнзіі на гэта. Ліцэнзія будзе з новага года, а да таго часу давядзецца папрацаваць як брыгада аддзелачнікаў, ужо і праца ёсць – трэба адрамантаваць будынак пошты ў адным аграгарадку пад Жодзінам. Хлопцы абурыліся, схапілі працоўныя кніжкі і пайшлі прэч.

Я застаўся, вырашыў рызыкнуць. Грошы трэба зарабляць, а нікуды не бяруць, гэтая шарашка – мой шанс. Тут мяне адразу, з авансам даверу, прызначылі брыгадзірам, запісалі цесляром 3-га разраду і паабяцалі далейшы кар'ерны рост.

### Нечаканая беларусізацыя

Дырэктар запанікаваў і, баючыся, што зараз і я пакіну іх, маліто́ўным голасам прамовіў:

– Сярожка, хоць ты не ўцякай! Мы табе падбяром новую брыгаду, будзем плаціць ад 600 000 рублёў! А то што ў цябе за такая спецыяльнасць – беларуская мова? На х.. яна каму патрэбна, праўда?! Ты ж з ёй усё роўна сабе працы не знойдзеш…

Гэтае «на х..» магло б прагучаць абразліва, але ў дадзеным выпадку выглядала камічна і, галоўнае, было горкай праўдай (інакш працаваў бы я настаўнікам, а не сядзеў у гэтай шарашцы).

Калі кіраўніцтва фірмы зразумела, што я не ўцякаю, то на хвалях удзячнасці і замілавання, якія ўзніклі ў іх да мяне, дазволілі самастойна набраць брыгаду, са сваіх сяброў і знаёмых. Паабяцалі пасяліць брыгаду за кошт фірмы ў жодзінскую гасцініцу і даць службовую машыну для паездак на працу. А калі сталі афармляць кантракт, то дырэктар невядома навошта стаў перапытваць у мяне, як тая ці іншая фраза з дакументацыі будзе гучаць па-беларуску. Я адказваў, і нарэшце ён спытаў:

– А можна я буду з табой размаўляць на беларускай мове?

Я, зразумела, згадзіўся, і з гэтага часу ён сапраўды стараўся гаварыць са мной па-беларуску, хоць не заўсёды гэта ў яго атрымлівалася.




Усё было афармлена, але я сядзеў, гутарыў з гэтымі людзьмі пра абы-што, еў разам з імі яблыкі, якімі частаваў дырэктар, дастаючы з шуфляды свайго стала. Ідылія!

### Гісторыка-філалагічная брыгада

Прайшло некалькі дзён. Новая брыгада ніяк не падбіралася, а за аб'ект трэба было ўжо брацца, каб паспець своечасова яго здаць. А паклалі спачатку там трэба было толькі разбурыць унутраныя перагародкі (зрабіць невялікую перапланіроўку), то на аб'ект адправілі мяне ўдваіх з электрыкам: ламаць – не будаваць, справімся, а там, глядзіш, і людзі знойдуцца.

Сапраўды, праз некаторы час я даведаўся, што адзін мой знаёмы (*таксама на фота на кучы смецця*), які закончыў са свабодным дыпломам гістарычны факультэт, адслужыў у арміі і сядзіць без працы. Ён згадзіўся працаваць у нашай шарашцы. Яго запісалі маляром 3-га разраду. І працавалі мы фактычна ўдваіх, бо электрык аказаўся алкагольна-залежным чалавекам, і з яго працы было болей шкоды, чым карысці. У хуткім часе яго забралі з аб'екта.

Трэба сказаць, што п'юць амаль усе будаўнікі (побач з нашым знаходзіліся яшчэ 2 аб'екты – было на што наглядзецца): цэлы дзень піва і «чарніла», увечары, ідучы дадому, купляюць гарэлку, назаўтра раніцай перад пачаткам працы пахмяляюцца «чарнілам», пахмелка пераходзіць у выпіўку паралельна з работай (чалавек выпівае 2–3 бутэлькі «чарніла» за дзень), увечары – зноў гарэлка і г.д. Праца часам перарываецца вылазкамі з мэтай пазычыць грошай на спіртное або «загнаць» дзеля гэтага мяшок цэменту, ліст шкла, шыферу ці яшчэ што. Навошта гэтыя падрабязнасці? Каб выклікаць адчуванне кантрасту паміж намі, гуманітарыямі, і будаўнікамі і такім чынам падкрэсліць, больш поўна перадаць здзіўленне апошніх нашымі паводзінамі. Напрыклад, месім мы раствор для заліўкі цэментнага ганка. Чалавек, якога для гэтага да нас адправілі, хацеў бы дадаць паболей пяску, а вызвалены такім чынам цэмент прапіць. Але я, як брыгадзір, прымусіў рабіць раствор у адпаведнасці з прапорцыямі, пазначанымі ў плане, што даў мне прараб. Ды яшчэ падчас гэтага занятку, стоячы над ванначкай раствору з рыдлёўкамі ў руках, мы з гісторыкам не рашаем задачу, дзе знайсці чаго выпіць, а дыскутуем наконт таго, ці можна разглядаць Адама Глобуса як беларускага Генры Мілера, або абмяркоўваем сенсацыю гэтага лета – эсэсаўства Гюнтэра Граса. Наш бедны будаўнік такіх размоў, ды яшчэ па-беларускай мове, ніколі не чуў, і ў яго скіўца адвісла, і вочы на лоб вылезлі.

### Гора-будаўнікі

Часам здаралася такая сітуацыя, што мы не ведалі, як нешта рабіць, а фірма ў той момант не магла прыслаць нам спецыяліста. У такіх выпадках прараб па тэлефоне гаварыў мне заўсёды прыкладна аднолькавую фразу, якая пачыналася са слова «блін»:

– Блін, што ж рабіць?.. А вы схадзіце на суседні аб'ект, спытайце ў мужыкоў, яны напэўна ведаюць!

І мы хадзілі і прасілі кансультацыі. Мужыкі дапамагалі нам не толькі парадамі, але часам проста прыходзілі на наш аб'ект і рабілі за нас пэўную працу. Мы дзякавалі ім за гэта бутэлькай. І яшчэ кожны дзень мы пазычалі ў сваіх суседзяў то нажніцы па металу, то шліфмашынку, то нейкія расходныя матэрыялы – але ў гэтым жабрацтве ўжо былі вінаватыя мы, а наша шарашка.

Паступова электрык-п'яніца зразумеў з нашых размоў, што адзін з нас – гісторык, а другі – філолаг, ды яшчэ з чырвоным дыпломам. Праз яго гэтая інфармацыя дасягнула суседніх аб'ектаў, куды ён часта знікаў, каб выпіць. І з таго часу, калі мужыкі прыходзілі дапамагаць нам, то жартоўна-спачувальна казалі:

– Ну, хто ж для вашай фірмы зробіць, як не мы? У вас жа такая брыгада: адзін – гісторык, другі – з чырвоным дыпломам, трэці – электрык, вечна п'яны…

Нібыта самі не вечна п'яныя! Але, у адрозненне ад электрыка, добра рабілі сваю справу. Толькі, відаць, слова «філолаг» для іх незразумелае, таму замест яго мужыкі згадвалі мой дыплом.

Кожны раз пасля такой дапамогі мы з гісторыкам называлі сябе гора-будаўнікамі, але пасля вырашылі, што мы вынайшлі новую прафесію – менеджэр па будаўніцтве. Чалавек, які будуе, толькі не сваімі рукамі. Нават можна зрабіць некалькі менеджэраў: менеджэр па кладцы цэглы (шукае ахвотнага пакласці цэглу за бутэльку), менеджэр па лінолеуму (шукае спецыяліста, які пакладзе лінолеум) і г.д.

### Педагог знаходзіць выйсце

Звычайна нам на цэлы тыдзень выдавалі камандзіровачныя грошы з разліку 12 000 рублёў на дзень. За іх мы куплялі на абед хлеб з каўбасой і малако, а таксама ездзілі дадому і на працу на электрычцы (у гасцініцы заставаліся толькі часам, бо там не было як нармальна паесці). Неяк у пятніцу спатрэбілася тэрмінова перавярыць ацяпляльныя батарэі з аднаго месца на другое. Мы адразу сталі менеджэрамі па зварцы – пайшлі ўпрошваць калгасніка зваршчыка зрабіць гэтую справу. Ён згадзіўся, але аказаўся… непітушчым, і запатрабаваў 20 000 рублёў! 10 000 запатрабаваў хлопец, якога мы папрасілі прывезці на машыне зварачны апарат. Мы патэлефанавалі прарабу, і той паабяцаў, што ў панядзелак прывязе і камандзіровачныя, і тыя грошы, што мы з уласнай кішэні заплацім зваршчыку і шаферу. Так і зрабілі – выклалі амаль апошнія грошы, пакінуўшы на праезд дадому і з дому на працу ў панядзелак.

Але ў панядзелак у прараба не атрымалася прыехаць. Ён патэлефанаваў і сказаў пазычыць да заўтра грошай на абед і праезд у загадчыцы паштовага аддзялення (для яе ж працуем, не адмовіцца!). Калі мы ўжо ішлі да гэтай жанчыны, мне патэлефанаваў дырэктар фірмы, каб пацікавіцца ходам працы на аб'екце. Я сказаў, што праблем няма, акрамя фінансавых, і ўвёў яго ў курс справы. Дырэктар спалохаўся і абурыўся:

– Ні ў якім разе не пазычайце! Вы ж ганьбіце фірму, прыніжаеце наш аўтарытэт!

– А на што нам сёння паабедаць і дабрацца дадому, а заўтра – на працу? – пацікавіўся я.

Дырэктар, адчуўшы безвыходнасць сітуацыі, зноў звярнуўся да мяне малітоўным голасам, як падчас першай сустрэчы, у офісе:

– Ну Сяржка, ну прыдумай што-небудзь, ты ж педагог! Толькі не пазычайце!

Вось як? Ну, ён сам гэтага захацеў! Справа ў тым, што за некалькі дзён да гэтага я даведаўся, што ў нашым раёне ў адной школе вызвалілася вакансія сацыяльнага педагога. Я пагутарыў з дырэктарам той школы, і ён сказаў, што можа ўзяць мяне. Спачатку я вагаўся, ці этычна пакідаць будоўлю, не давёўшы да канца аб'ект. Але з кожным днём, пасля кожнага выпадку «менеджэрства па будаўніцтве» расло раздражненне на нашу шарашку, якая падчас прыёму на працу шмат абяцала, а як дайшло да справы, дык стала кідаць нас на волю лёсу і на насмешкі «мужыкоў з суседніх аб'ектаў», няхай сабе і няўлосныя. Гэты правал з грашамі, падчас якога, дарэчы, адзін начальнік гаворыць адно, а другі – зусім супрацьлеглае, стаў апошняй кропляй, і я паведаміў дырэктару:

– Так, я педагог, і збіраюся зноў стаць ім. Мне прапанавалі працу ў школе, і я звальняюся ад вас.

Дырэктар адрэагаваў наступным чынам:

– Добра, Сярожка, я разумею цябе, як чалавека: будзеш у чысціні, пры гальштуку, з паслухмянымі дзецьмі, а не нашымі п'яніцамі. Мы цябе адпусцім, як толькі захочаш, але не пазычай грошай, прыдумай якое-небудзь далікатнае выйсце…

Далікатнае выйсце мы знайшлі – паабяцалі дырэктару, што не будзем пазычаць грошай, праедзем на электрычцы зайцамі, а самі пазычылі і назаўтра аддалі з прывезеных прарабам. З шарашкі я сапраўды звольніўся. На маё месца прыйшоў сябар і былы саслужывец майго напарніка-гісторыка, таксама беспрацоўны, толькі па адукацыі інжынер рыбагадоўлі. Ён прапацаваў 2 дні і сышоў з гэтай, як ён выказаўся, «мутнай шарагі», у якой «усё робіцца праз ж…». Гісторык вырашыў застацца да здачы аб'екта. Магчыма, знойдзе кагосьці сабе на пару, магчыма, прышлюць каго-небудзь з фірмы, але гэта мяне ўжо не цікавіць.

Праўда, у школу я таксама не пайшоў. Прыехаў у аддзел адукацыі ў прызначаны час, а супрацоўніца, з якой мне трэба было сустрэцца, знаходзілася на нейкай пазачарговай нарадзе. Я чакаў яе гадзіну. За гэтую гадзіну, стоячы ў калідоры, наглядзеўся на мітуслівых чыноўнічкаў, якія з уцягнутымі ў плечы галовамі і спалоханымі тварамі стукаліся ў дзверы больш высокіх чыноў, – і адчуў такую агіду і нуду, што захацелася хутчэй уцекчы адтуль. Гэта яны, запалоханыя, прыбітыя кар'ерыскія будуць кіраваць мной, творчым чалавекам з чырвоным дыпломам?! Такую агіду і нуду я адчуваў раней, калі мне не давалі спакойна працаваць настаўнікам бюракратызм, фармалізм, паказуха, прыдзірлівасць і розная іншая бязглуздзіца ў паводзінах тых нікчэмных асоб, якія займаюць хоць якую-небудзь нікчэмную, нязначную, але – пасаду! І гэтая нуда перамагла – я хутчэй уцёк, пакуль патрэбная мне супрацоўніца не вярнулася з нарады і не сустрэла мяне ў гэтым цесным і змрочным райвыканкамаўскім калідоры.

***

***Зараз у мяне ў кішэні ляжыць разлік з шарашкай. Крыху адпачну, і зноў можна ісці на будоўлю, толькі ўжо трэба быць больш пераборлівым у выбары працадаўцы, каб зноў не стаць менеджэрам па будаўніцтве. Няхай сабе не паставяць брыгадзірам, няхай нават замест «цясляр 3-га разраду» запішуць у працоўную кніжку «рознарабочы». Так яшчэ лепш: махай кувалдай і ні аб чым не хвалюйся. Увечары крыху пабаляць рукі, але гэта справа звычкі. Галоўнае, што не баліць ад чужой дурноты свая галава.***

*Сяргей АБРАМОВІЧ*





*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

У свае юнацкія гады Сцяпан-Севярын ва ўсім браў прыклад са свайго сотніка Севярына Мержаеўскага.

Пазней маёнтак Грозава перайшоў да зяця Севярына Мержаеўскага – Каліноўскага Караля. Тут часта бываў і яго брат Каліноўскі Юзік – адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 года. Натхняльнікам капыльскіх соцен быў колішні дырэктар дваранскага інстытута Вялікага княства Літоўскага, карэнны ліцвін пан Міхаіл Мержаеўскі.

Севярын, бацька Паўла і Казіміра, часта ўспамінаў пры дзецях сваіх сяброў па паўстанні. Вітольда Наркевіча-Ёдку з суседніх Кацельнікаў, яго брата Яна Сільвестра Наркевіча – галоўнага флаг-карнета паўстання 1863 года, сасланага ў Сібір і амаль памерлага ад «страты сіл» за два гады «каменнага мяшку» ў турме. Але ён знайшоў у сабе мужнасць стаць выдатным чалавекам свету. Ён стаў інжынерам, які пабудаваў у ЗША мост праз раку Гудзон, гэту капыльскую сувязь з Манхэтанам.

Амаль усе ўдзельнікі разгромленага паўстання, сябры Юзіка Каліноўскага і Севярына Мержаеўскага, бягуць з Капыльшчыны, з панскіх маёнткаў. Трэба захаваць сілы на будучае. Трэба зберагчы дзяцей.

Бацька Казіміра гадамі хаваецца ў капыльскіх маёнтках, але як толькі Казіміру споўнілася тры гады, бяжыць з дому. Яму самому за трыццаць. Усё, здаецца, наперадзе. Яшчэ шмат сіл, не растрачаных у «каліноўскую рэвалюцыю».

Ён рашаецца на доўгіх дзесяць гадоў забыць мінулае. Галоўнае – падняць дзяцей. Для іх ён прыдумаў гісторыю сям'і «родам з-пад Кіева», дзе знаёмы поп з Бабоўні ўжо неяк уладкаваўся ў Канатопскі манастыр і збірае там усіх беглых капылян.

Адзінае страшыць: выдае капылян мясцовая гаворка. А дзецям цяжэй за ўсё. Украінская мова ніяк не перапляцецца з польска-беларускай «гаворкай». Але цярпець – лёс хоць і вольнага, але селяніна. Выцерпяць яны і выдуманую кіеўскую гісторыю. Галоўнае, каб дзеці памяталі родную мову і пакуль не ведалі таго, чаго ведаць не трэба.

А на выдумкі пра сябе Севярын заўсёды быў штукар. Спадчынны канакрад. Без гэтага нікуды. Адсюль у сям'і і капыльская мянушка – «хітрыкі». На тое ён і стаў Севярынам і галоўным «хітрыкам», каб дзецям не расказаць сваю праўду. Смаркачы яшчэ. Галоўнае – напусціць туману, і паболей.

З такім мяцежным мінулым і любоўю да справядлівасці на чужым месцы цяжка прыжыцца. І надоўга затрымацца ўдалечыні ад дому, ад роднай зямлі, ад сваіх вулляў і коней... Добра, што «каліноўскую рэвалюцыю» тут усе даўно забылі. І тых удзельнікаў паўстання, якія засталіся дома, мала. Перавешалі іх мураўёўскія чырвонапагоннікі, перасадзілі, выслалі.

Адна думка мучыць доўгія гады: вярнуцца на радзіму. Хоць праз дзесяць гадоў, але дадому. Ды і дзеці ўжо падраслі – ужо мужыкі. Ужо час ім пабачыць Капыльшчыну...

Вучоба Казіміру не давалася. Капыльскі дыялект, на якім гаварылі дома, у канатопскай царкоўнапрыходскай школе, блытаў усе думкі. Ніяк не разумее ён урокаў мясцовага настаўніка. Не разумее яго слоў. Не разумее думак. У школе багата дзяцей беглых каліноўцаў-беларусаў, асабліва са Случчыны і Капыльшчыны. І ва ўсіх з вучобай нешта не так.

Асабліва з царкоўнымі доўгімі тэкстамі і спевамі. Акрамя першых радкоў «Ойча наш», нічога папу не ўдаецца ўбіць ім ў галовы. Як казаў бацька, які прызнаваў толькі ўніяцкую царкву «каліноўскага паўстання», яны назаўсёды «капыльскія ліцвіны». Але вучыцца трэба паўсюль.

Казімір ніколі не вывучыць ні ўкраінскай, ні рускай мовы. Усе свае лісты і ўсю сваю філасофію новага мастацтва ён напіша на роднай беларускай мове польскімі літарамі каталіцкіх царкоўных тэкстаў. Увесь свет будзе перакладаць і шукаць адпаведнікі капыльскім слоўкам...

Маці заўсёды сумная. Хвалюецца за сваіх дзетак. Яна часта ціха перашэптваецца з бацькам. Казімір усё ведае. Бацькі думаюць, як ціха і непрыкметна вярнуцца дадому, на Капыльшчыну. Грошы ёсць. Але спачатку трэба затаіцца. Знікнуць з вачэй і людзей, і паліцыі. Забраць дзяцей са школы – няхай падзарабляюць на цукровым заводзе...

Зусім іншае жыццё настала ў Казіміра. Трэба кожны дзень пасля школы бегчы ў млын, дзе размолваюць на муку вялікія цукровыя галовы і дапамагаць рассыпаць муку і цукар у мяхі, задыхаючыся ад пылу і слёз крыўды. Крыўды на бацьку, які забараняе маляваць на цукровай муцэ – такой белай і падатлівай... Бацька ўсё часцей аддае сынам сваю працу, а сам перашэптваецца з супрацоўнікамі, пакурваючы ля вады. Казімір усё выслухаў. Кажуць, час выбірацца з чужыны.

Севярын завёў сяброўства і «гешэфты» з паўрасійскімі падкіеўскімі панкамі. Яны людзі важныя і сытыя, але добрыя і гандлёвыя. І набыць у іх можна ўсё. Асабліва, калі гуляюць пасля млына.

У іх Севярын набыў двух валоў... Дадому.

Ціха і не спяшаючыся вярнуліся ў капыльскі дом па старой нясвіжскай дарозе. Амаль ні з чым: два нябачныя на Капыльшчыне валы і вазок са скарбам. Грошай няшмат, але добра прыхаваны. Дома – пабеларуску бедна, але Севярын разумее, што гарадская рэвалюцыя яшчэ горш.

Трэба пачынаць новае жыццё. Дома, а не на чужыне душа знайшла спакой. Севярын адгаворвае ўсіх, каго добра ведае, ад новай рэвалюцыі. Становіцца абшчынным старастам кушнерскага цэха. А гэта ўжо пазіцыя ў «капыльскага обчаства». Паважаная пазіцыя і не бедная.

*(Заканчэнне будзе)*

# ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР

**8 красавіка** – Пасха (Вялікдзень)

### *Двунадзесятыя святы*

| | |
|---|---|
| **7 студзеня** | Нараджэнне Хрыстова |
| **19 студзеня** | Хрышчэнне Гасподняе (Вадохрышча) |
| **15 лютага** | Стрэчанне Гасподняе (Грамніцы) |
| **7 красавіка** | Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы |
| **1 красавіка** | Вербная нядзеля (Вербніца) |
| **17 мая** | Узнясенне Гасподняе |
| **27 мая** | Дзень Святой Тройцы – Пяцідзесятніца (Сёмуха) |
| **19 жніўня** | Праабражэнне Гасподняе (Яблычны Спас) |
| **28 жніўня** | Успенне Прасвятой Багародзіцы (Першая Прачыстая) |
| **21 верасня** | Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы (Багач) |
| **27 верасня** | Узвіжанне Крыжа Гасподняга |
| **4 снежня** | Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы |



*Малюнак Кацярыны МЯСНІКОВАЙ*

### *Вялікія святы*

| | |
|---|---|
| **14 студзеня** | Абрэзанне Гасподняе і памяць свц. Васіля Вялікага |
| **7 ліпеня** | Нараджэнне Іаана Прадцечы |
| **12 ліпеня** | Святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла (Пятро) |
| **11 верасня** | Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы |
| **14 кастрычніка** | Пакроў Прасвятой Багародзіцы |

### *Мнагадзённыя пасты*

**Вялікі Пост** – з 19 лютага да 7 красавіка
**Пятроў пост** – з 4 чэрвеня да 11 ліпеня
**Успенскі пост** – з 14 жніўня да 27 жніўня
**Пост перад Нараджэнем Хрыстовым (Піліпаўка)** — з 28 лістапада да 6 студзеня 2008 года

### *Аднадзённыя пасты*

Серада і пятніца на працягу ўсяго года, за выключэннем усядных тыдняў і Каляднага перыяду
Навячэр'е Богаяўлення (Трэцяя, Вадапосная Куцця) – 18 студзеня
Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы – 11 верасня
Узвіжанне Крыжа Гасподняга – 27 верасня

### *Усядныя тыдні (па серадах і пятніцах посту няма)*

**Калядны перыяд** – з 7 да 18 студзеня
**Мытара і фарысея** – з 29 студзеня да 3 лютага
**Сырны (Масленічны)** – з 12 да 17 лютага
**Пасхальны (Светлы)** – з 9 да 14 красавіка
**Троіцкі** – з 28 мая да 2 чэрвеня

### *Дні асаблівага памінання спачылых*

**Субота мясапусная** – 10 лютага
**Субота 2-га тыдня Вялікага посту** – 3 сакавіка
**Субота 3-га тыдня Вялікага посту** – 10 сакавіка
**Субота 4-га тыдня Вялікага посту** – 17 сакавіка
**Радаўніца (Радаўніцкія Дзяды)** – 17 красавіка
**Памінанне спачылых воінаў** – 9 мая
**Субота Траецкая** – 26 мая
**Субота Дзімітрыеўская (Змітраўскія Дзяды)** – 3 лістапада

### *Не адпраўляецца вянчанне*

Напярэдадні серады і пятніцы ўсяго года (г.зн. па аўторках і чацвяргах)
Напярэдадні нядзельных дзён (г.зн. па суботах)
Напярэдадні двунадзесятых, храмавых і вялікіх святаў
На працягу пастоў Вялікага, Пятрова, Успенскага і посту перад Нараджэннем Хрыстовым
На працягу Каляднага перыяду (ад 7 да 19 студзеня)
На працягу сырнага тыдня (масленіцы), пачынаючы з Нядзелі мясапуснай ў Нядзелю сырапусную
На працягу Пасхальнага (Светлага) тыдня
У дні і напярэдадні Усекнавення галавы Іаана Прадцечы – 11 верасня і Узвіжання Крыжа Гасподняга – 27 верасня

# КАТАЛІЦКІ КАЛЯНДАР

| | |
|---|---|
| **1 студзеня** | Святой Багародзіцы Марыі, Новы год |
| **6 студзеня** | Аб'яўленне Пана (Тры Каралі) |
| **7 студзеня** | Хрост Пана |
| **25 студзеня** | Навяртанне св. Апостала Паўла |
| **2 лютага** | Ахвяраванне Пана |
| **21 лютага** | Папяльцовая серада (пачатак Вялікага Посту) |
| **19 сакавіка** | Урачыстасць святога Юзафа |
| **26 сакавіка** | Звеставанне Пана |
| **1 красавіка** | Пальмовая Нядзеля |
| **8 красавіка** | Нядзеля Змёртвых паўстання, Вялікдзень (Пасха) |
| **15 красавіка** | Божай Міласэрнасці |
| **17 мая** | Унебаўшэсце Пана Езуса |
| **27 мая** | Нядзеля Спаслання Духа Святога |
| **31 мая** | Адведзіны Найсвяцейшай Панны Марыі |
| **3 чэрвеня** | Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы |
| **7 чэрвеня** | Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста |
| **15 чэрвеня** | Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса |
| **24 чэрвеня** | Нараджэнне святога Яна Хрысціцеля |
| **29 чэрвеня** | Святых Апосталаў Пятра і Паўла |
| **2 ліпеня** | Маці Божай Будслаўскай |
| **6 жніўня** | Перамяненне Пана |
| **15 жніўня** | Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі |
| **8 верасня** | Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі |
| **14 верасня** | Узвышэнне Святога Крыжа |
| **29 верасня** | Святых Арханёлаў |
| **1 лістапада** | Урачыстасць Усіх Святых |
| **2 лістапада** | Успамін усіх памерлых вернікаў |
| **25 лістапада** | Урачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету |
| **2 снежня** | Першая Нядзеля Адвэнту (пачатак літургічнага года) |
| **8 снежня** | Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі |
| **25 снежня** | Божае Нараджэнне |
| **30 снежня** | Свята Святой Сям'і Езуса, Марыі і Юзафа |

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасной – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 11.01.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 24
Тыраж 1450 асобнікаў.